ISSN 2351-6658
ISSN (ONLINE) 2351-6666

# ТРАНСФАРМАЦЫІ САЦЫЯЛЬНАЙ ПРАСТОРЫ БЕЛАРУСІ ПОЗНЕСЯРЭДНЯВЕЧНАГА І РАННЕМАДЭРНАГА ЧАСУ: ПРАБЛЕМЫ ГЕНЕРАЛІЗАЦЫІ І ДЭФІНІЦЫЙ

АЛЕГ ДЗЯРНОВІЧ

***Анатацыя:*** У тэксце разглядаецца праблема плённасці генералізацый сацыяльных з’яваў у гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Вынік дыскусіі можна падсумаваць наступным чынам: у сваім напаўненні феадалізм ёсць тэарэтычнай абстракцыяй. Ці ёсць сэнс адмаўляцца ад гэтай метадалагічнай канструкцыі? Калі так паступіць, то ўся хісткая канструкцыя аналізу працяглай эпохі можа разваліцца. Рэчаіснасці адпавядае не гамагеннасць паказчыкаў, як у ідэальным тыпе, а гетэрагеннасць, варыяцыя паказчыкаў.

***Ключавыя словы:*** Вялікае Княства Літоўскае, сацыяльны лад, феадалізм.

# TRANSFORMATION OF THE SOCIAL SPACE OF BELARUS IN THE LATE MIDDLE AGES AND EARLY NEW TIMES: PROBLEMS OF GENERALISATION AND DEFINITIONS

***Abstract:*** The text deals with the problem of social phenomena’ generalisation efficiency in the history of the Grand Duchy of Lithuania. The discussion results in a conclusion that feudalism, in its essence, is a theoretical abstraction. But is there any sense to abandon this methodological construct? If so done, the whole fragile analysis structure of the prolonged epoch can fall apart. What corresponds to the reality is not homogeneity of indicators as in an ideal type, but heterogeneity, a variation of parameters.

***Keywords:*** Grand Duchy of Lithuania, Social System, Feudalism.

Цягам апошняй чвэрці стагоддзя ў даследаванні палітычнай гісторыі, шляхецкай генеалогіі, гістарычнай геаграфіі Вялікага Княства Літоўскага назіраюцца выразная дынаміка і відавочны прагрэс. Між тым некаторыя базавыя дэфініцыі аказаліся адсунутымі на перыферыю гістарычнага дыскурсу. Вядома, адна з асноўных прычын такой сітуацыі "пазбаўлення ад тэорыі" – траўма эпохі жорсткай метадалагічнай дэтэрмінацыі ў сацыяльна-гуманітарных навуках.

У сваіх лакальных тэмах гісторыкі могуць даволі паспяхова працаваць без некаторых базавых дэфініцый. Але пры стварэнні гістарычных сінтэзаў, а таксама пры напісанні навучальнай і дыдактычнай літаратуры вельмі цяжка абысціся без нейкіх схем і генералізацыі. Што тычыцца эпохі ВКЛ, то адным з такіх ключавых паняццяў сацыяльнай гісторыі паўстае феадалізм.

Эпоха паміж Антычнасцю і Новым часам, як бы ні вагаліся яе храналагічныя межы, застаецца трывала павязанай з паняццем "феадалізм", у якім працягваюць бачыць палітычную, прававую, эканамічную і сацыяльную квінтэсенцыю Сярэднявечча. Апроч таго, паняцце феадалізму валодае таксама пераважна пеяратыўнай афарбоўкай, гэта значыць, што ўтрымлівае ў сабе негатыўную ацэнку, асабліва ў ацэнцы развіцця эканомікі і сацыяльнай структуры грамадства. Само ж паняцце "феадалізм" пачало выкарыстоўвацца англійскімі юрыстамі толькі ў XVII стагоддзі – як тэрмін судовай практыкі. Ужо ў XVIII стагоддзі французскі гісторык Анры дэ Буленвільe і яго суайчыннік філосаф і правазнаўца Шарль-Луі дэ Мантэск'ё ўжылі тэрмін "феадалізм" як грамадска-палітычнае паняцце.

Тэрмін "феадалізм" паходзіць ад лацінскага "feodum" – так у заходнееўрапейскіх краінах называлі адну з формаў буйнога землеўладання. У французскай мове слова "феод" гучала як "ф'еф", а ў нямецкай яму адпавядала паняцце "лен". За галоўнаю прыкметаю феадалізму гісторыкі XVIII стагоддзя прызнавалі васальна-ленную сістэму – так называлі форму адносінаў унутры пануючага ў грамадстве сацыяльнага слоя, пры якой вышэйстаячы яе прадстаўнік (сеньёр) дараваў зямлю і перадаваў пратэктарства (апякунства) іншаму прадстаўніку гэтага слоя, якія знаходзіўся ніжэй на іерархічнай лесвіцы гэтага слоя (васалу). Падобныя ўзнагароджанні адбываліся з умоваў вайсковай службы васала і называліся феодам/фьефам ці ленам.

У выніку такую сістэму арганізацыі грамадскіх адносін, якую мы прызвычаіліся называць феадалізмам, у сваёй класічнай форме гісторыкі XIX стагоддзя ўбачылі ў Францыі ў XI–XII стагоддзях. Феадальная сістэма грамадства будуецца зусім не на прыгоннай залежнасці сялянаў, якую нават не ведалі некаторыя еўрапейскія краіны, напрыклад скандынаўскія, а на буйной зямельнай уласнасці і іерархічнай

сістэме арганізацыі ўнутры самога класа землеўласнікаў. Прыгоннае сялянства магло быць толькі атрыбутам феадалізму, а наяўнасць сеньёраў і васалаў ды плюралізм зямельнай уласнасці і складаюць сутнасць гэтай сістэмы.

Расійская гістарыяграфія XIX стагоддзя прызнавала наяўнасць буйной зямельнай уласнасці ў XV–XVI стагоддзях. З “феодам” адны аўтары атаясамлівалі ўзніклае ў канцы XV стагоддзя расійскае “поместье” (форму ўмоўнага землеўладання з абавязкам службы), іншыя даследчыкі бачылі “феоды” ў княскіх “удзелах”. Увогуле ж, гісторыкі XIX стагоддзя звярталі ўвагу на спецыфіку развіцця Расіі і сам тэрмін “феадалізм” толькі зрэдку прыкладалі да расійскай гісторыі. Тым часам у гістарыяграфіі заходняга Сярэднявечча ўмацоўваецца ўяўленне пра другую, апроч васальна-леннай сістэмы, іпастась феадалізму, у якасці якой выступае буйная зямельная ўласнасць. І вось ў пачатку XX стагоддзя з’яўляецца канцэпцыя Мікалая Паўлава-Сільванскага, які настойваў на наяўнасці ў Русі XIII–XVI стагоддзяў асноўных рыс феадалізму, што прызнаваліся тагачаснай навукай. Сеньёрыі гісторык бачыў у “баяршчыне” (так Паўлаў-Сільванскі называў баярскае землеўладанне), а таксама прызнаваў наяўнасць васальна-леннай сістэмы. У савецкай гістарыяграфіі была ўспрынята марксісцкая канцэпцыя пра сацыяльна-эканамічныя фармацыі, адной з якіх і быў феадалізм. І ўжо ў 1932 годзе Барыс Грэкаў выступіў з гіпотэзай, што феадалізм на Русі ўмацаваўся ўжо ў IX–X стагоддзях.

Праблема палягае ў тым, што па IX стагоддзе няма ніякіх звестак пра наяўнасць на Русі буйнога прыватнага землеўладання. Толькі ў сярэдзіне – другой палове X стагоддзя мы сустракаем адзінкавыя звесткі пра сёлы, што належалі кіеўскім князям. І толькі ў XI стагоддзі з’яўляюцца звесткі, якія дазваляюць казаць пра развіццё княскага землеўладання. Ужо дыскусіі ў пасляваеннай савецкай гістарыяграфіі мусілі вырашыць падобны парадокс. У 1953 годзе Леў Чарапнін вылучыў тэзіс пра панаванне на Русі X–XI стагоддзяў не прыватнавотчыннай уласнасці, а “вярхоўнай уласнасці дзяржавы”. Сам жа гэты тэрмін быў узяты ў Карла Маркса, які выкарыстоўваў яго адносна ўсходніх сярэднявечных грамадстваў. Яшчэ адным з адказаў на “метадалагічную пастку” феадалізму стала канцэпцыя Ігара Фраянава, паводле якой на Русі да мангольскага нападу існаваў бяскласавы лад, што грунтаваўся на самакіраванні гарадоў-дзяржаў абшчыннага тыпу.

У 1994 годзе па “класічнай мадэлі” феадалізму быў нанесены метадалагічны ўдар. Англійская даследчыца Сьюзан Рэйнальдс выпусціла сваю кнігу “Ф’ефы і васалы” (Оксфард, 1994), дзе пераканаўча паказала, што сеньёрыя-ф’еф як прывілеяваная ўласнасць, абумоўленая

службай, стала рэальнасцю ў Заходняй Еўропе толькі ў XII стагоддзі. Да гэтага ж часу пераважалі адносіны не васалітэту, а падданства. “Класічная мадэль” феадалізму – сеньёрыяльны лад з развітай васальнай сістэмай – у “поўнай” сваёй форме аказваецца тэарэтычнай пабудовай ці нават фікцыяй. Такім чынам, даследчыкі заходняга Сярэднявечча выявілі тыя рысы арганізацыі грамадства і сацыяльнага ладу, якія былі даўно зафіксаваныя ва Усходняй Еўропе. Сьюзан Рэйнальдс выказвае сумневы адносна далейшай прыдатнасці канцэпту “феадалізм” і таго зместу, якім гэтае паняцце напаўняецца гісторыкамі.

У беларускай гістарыяграфіі даволі працяглы час феадалізацыю звязвалі з дзвюма з’явамі: паўстаннем буйной зямельнай маёмасці і запрыгоньваннем сялян. Эдвардас Гудавічус пачатковыя этапы феадалізацыі звязвае з пачаткам вылучэння зямельнай уласнасці знаці – вялікага одаля (абмежаванага алоду). А для першай паловы XIII стагоддзя Гудавічус канстатуе ўзнікненне ў Літве одальнага грамадства індывідуальных сем’яў і індывідуальных гаспадарак. І ў гэтым літоўскі даследчык бачыць прынцыповую розніцу са славянскімі супольнасцямі, у тым ліку тымі, што ўвайшлі ў склад ВКЛ. Адметнасць сацыяльнай арганізацыі славянаў заключаецца, паводле Гудавічуса, у існаванні сялянскай абшчыны. Апошнія ж даследаванні Валянціна Голубева паказалі, наколькі абшчына ў раннемадэрнай Беларусі была сацыяльным і фіскальным інструментам, які мэтанакіравана падтрымліваўся дзяржаўнай уладай і шляхтай-землеўладальнікамі. Арон Гурэвіч жа ўвогуле сцвердзіў аграрны індывідуалізм сярэднявечнага грамадства Еўропы.

Увогуле, Арон Гурэвіч адзначаў неўпарадкаванае і складанае сацыяльнае жыццё Сярэднявечча. Гісторык меркаваў, што было б аднабаковым разглядаць сацыяльныя працэсы перыяду ранняга Сярэднявечча выключна ці галоўным чынам праз прызму “генезісу феадалізму”, што заганяе нас у апрыёрнае ложа генералізацый. Сярэднявечная еўрапейская цывілізацыя зусім не вычэрпваецца сваёй феадальнай іпастассю. Апроч леннага ладу, васалітэту, таксама існавалі тыя формы чалавечага соцыуму, якія выходзілі за рамкі феадальных структур. Важна памятаць пра сацыяльную шматукладнасць сярэднявечнага свету. У гэтым свеце побач з феадальнымі ваенна-палітычнымі і прававымі структурамі былі шырока распаўсюджаныя рабства і найманая праца. Асаблівую ролю ў функцыянаванні і трансфармацыі грамадства выконваў горад, прырода якога, паводле Гурэвіча, па сваёй сутнасці вельмі далёкая ад феадалізму.

Такім чынам, многія сацыяльныя з’явы, якія яшчэ 50 гадоў таму ўяўляліся сутнасцю феадалізацыі сярэднявечных грамадстваў Ус-

ходняй Еўропы, цяпер, пасля прэпарыравання з дапамогаю масавых крыніц, разглядаюцца як раннемадэрныя канструкты.

На сённяшні дзень вынік дыскусіі можна падсумаваць наступным чынам: у сваім поўным напаўненні феадалізм ёсць тэарэтычнай абстракцыяй. Усё ж, ці ёсць сэнс адмаўляцца ад гэтай метадалагічнай канструкцыі? Калі так зрабіць, то ўся хісткая канструкцыя, з дапамогай якой мы можам разглядаць такую працяглую эпоху, разваліцца. Тым больш што ўсё ж пэўныя тэндэнцыі ў сферы канцэнтрацыі зямельнай уласнасці і выбудовы адпаведнай сацыяльнай іерархіі прасочваюцца ў гэтую эпоху. Рэчаіснасці адпавядае не гамагеннасць паказчыкаў, як у ідэальным тыпе, а гетэрагеннасць, варыяцыя паказчыкаў.